

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №9 (60)
ЧЭРВЕНЬ 2017 ГОДА

МЕМАРЫЯЛ

# АДМАЎЛЯЮЦЦА СТАВІЦЬ МЭМАРЫЯЛЬНЫЯ КРЫЖЫ

**У Мазалаўскім сельскім выканкаме прайшоў сход, арганізаваны Віцебскім райвыканкамам пасьля звароту жыхароў вёскі Хайсы і віцебскіх актывістаў. Калектыўны зварот тычыўся просьбы ўшанаваць памяць людзей, чые парэшткі знаходзяць каля вёскі Хайсы, вялікім мэмарыяльным крыжам.**

Ксенія Карабач, намесьніца старшыні Віцебскага райвыканкаму, заявіла, што лічыцьгэтуюпрапанову«нясвоечасовай». Маўляў, крыж будзе замінаць працы 52-га пошукавага батальёну, які займаецца эксгумацыяй парэштак.

Чыноўніца: мэмарыяльны крыж будзе замінаць працы пошукавікаў

Гэтая выснова выклікала абурэньне прысутных: парэшткі людзей у гэтым лесе знаходзяць з 2014 году, і ўжо тады паўстала пытаньне пра ўшанаваньне іхнай памяці. Мясцовыя старажылы кажуць, што ў гэтых мясьцінах у 1937-38 гадах адбываліся «сталінскія расстрэлы». Аднак пасьля працы вайсковых пошукавікаў у 2015 годзе, якія знайшлі «кавалак тканіны, ідэнтычны той, зь якой шылася нямецкая вайсковая форма», афіцыйнай была прызнана вэрсія, што парэшткі належаць ахвярам Вялікай Айчыннай вайны. Іх нават перапахавалі ў брацкай магіле пад чырвонай зоркай каля чыгуначнай станцыі Лосьвіда.

Сёлета ўвесну мясцовыя жыхары зноў знайшлі ў лесе косьці. Найверагодней, у наваколлі Хайсоў дзейнічаюць «чорныя капальнікі», лічаць вяскоўцы. Мясцовыя ўлады былі зноўку вымушаны выклікаць 52-і пошукавы батальён, але ў заяўцы чарговы раз напісалі, што парэшткі належаць ахвярам мінулай вайны. Аднак, эксгумуючы парэшткі, вайскоўцы знайшлі шмат рэчаў, датаваных не пазьней як 1938 годам. Сярод знаходак быў жаночы грабеньчык з пазначаным імем і фрагмэнтам прозьвішча. Віцебскія актывісты з ініцыятывы «Хайсы» правялі ўласнае дасьледаваньне і лічаць, што адна з ахвяраў — расстраляная ў 1938 годзе настаўніца Вольга Данцыт.

Пошукавікі паклалі парэшткі ў вялікія цыратовыя мяхі, перадалі частку рэчаў на экспэртызу, закапалі ямы, якія ўжо пасьпелі прасесьці пад даждом, і зьехалі. Намесьніца старшыні Віцебскага райвыканкаму Ксенія Карабач так і не змагла патлумачыць прысутным, якім чынам мэмарыяльны крыж можа перашкодзіць далейшым пошукавым работам. То казала, што «крыж будзе замінаць праводзіць раскопкі», то выказвала меркаваньне, што «людзі пачнуць хадзіць маліцца да крыжа і замінаць 52-убатальёну», які нібыта «калі-небудзь вернецца». Чыноўніца не змагла назваць аніякіх канкрэтных тэрмінаў, калі ўсталяваньне крыжа нарэшце будзе «своечасовым»: гучала і прапанова «пачакаць месяц, пакуль не прыйдзе афіцыйная папера, што раскопкі скончаныя», і спасылкі на тое, што яшчэ няма вынікаў экспэртызы знойдзеных рэчаў, і заявы пра паўторны выклік пошукавікаў.

Міліцыя «вартуе» актывістаў, але «ня мае магчымасьці» заняцца выкрыцьцём «чорных капальнікаў»

Прысутныя на сходзе гаварылі пра іншае: што крыж — гэта сымбаль памяці, і паставіць яго варта, незалежна ад вынікаў экспэртызы і высноваў вайсковых археолягаў. Упікалі ўлады, што парэшткі знаходзяць колькі гадоў запар, а ставіць крыж, на думку ўладаў, усё яшчэ «несвоечасова».

На што Ксенія Карабач зазначыла:

«Вы ж усё адно наставілі ў лесе крыжоў — на месцы, дзе знайшлі парэшткі ў 2014 годзе. І яны стаяць, ніхто іх не чапае. Ня трэба рабіць з уладаў нейкіх нелюдзяў! Мы згодныя: ушанаваць памяць ахвяраў трэба. І мы самі зробім высновы, як гэта найлепей зрабіць. Але на ўстаноўку крыжа мы дазволу не даём».

Іншыя прадстаўнікі ўладаў, якія сядзелі за сталом перад прысутнымі, увогуле ня мелі што сказаць. Супрацоўніца райвыканкаму Ірына Тарасава, якая «займаецца пытаньнямі ўвекавечваньня ахвяраў войнаў» (так яе ахарактарызавалі прысутным), сказала ўсяго адну фразу: «Я згодназпазіцыяйкіраўніцтва». Старшыня Мазалаўскага сельскага выканкаму Леанід Дубіназагаварыў толькі тады, калі актывістка Тацяна Севярынец запыталася, якія захады зрабілі мясцовыя ўлады, каб чорныя капальнікі не займаліся блюзьнерствам, штораз выкідаючы зь зямлі парэшткі.

«Лягас усталяваў фатапасткі», — сказаў спадар Дубіна. «Мы зьвярталіся ў міліцыю, але нам сказалі, што ў іх няма магчымасьцяў арганізаваць ахову», — дадала Ксенія Карабач. Прысутныя засьмяяліся: каля ганкаў сельвыканкаму яшчэ да пачатку сходу быў прыпаркаваны міліцэйскі аўтобус з супрацоўнікамі. Напэўна, дзяжурства каля афіцыйнага будынка куды больш актуальнае, чымсьці выяўленьне «чорных капальнікаў»...



Застаецца адно: ставіць крыжы самім, не спадзеючыся на ўлады

Дарэчы, падчас сходу прадстаўнікам Віцебскага райвыканкаму давялося выслухаць нямала скаргаў, не датычных сытуацыі з парэшткамі і ўстаноўкай крыжа. Людзі казалі, што ў вочы ня бачылі свайго ўчастковага, што падчас зваротаў да мясцовых уладаў ім «затыкаюць раты», што няма павагі да простых людзей. Зрэшты, нават гэты сход чыноўнікі арганізавалі так, як зручней менавіта ім: ня ў вёсцы Хайсы, дзе жыве большасьць тых, хто падпісаў калектыўны ліст, а ў Мазалаўскім сельсавеце. Ды яшчэ ў свой працоўны час, а не тады, калі з працы вернуцца шараговыя працаўнікі, якія на сход трапіць не змаглі.

На думку Яна Дзяржаўцава, стваральніка ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты», сход выразна прадэманстраваў стаўленьне мясцовых уладаў да сытуацыі:

«Янынізавоштаняхочуцьпрызнаць,што ў лесе расстрэльвалі ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Нават крыж адмаўляюцца ставіць, спасылаючыся на розныя ўяўныя прычыны. Вельмі выразная пазыцыя, таму мы будзем ставіць крыжы самі. Гэта наш абавязак перад памяцьцю загінулых. Бо ад райвыканкаму не даводзіцца чакаць дапамогі: у 2016 годзе парэшткі, знойдзеныўлесе,цішкомаднаспахавалі ў брацкай магіле. Не выключаю, што й гэтым разам сытуацыя паўторыцца».

Актывісты ўжо зьвярталіся да ўладаў, каб ім паведамілі пра вынікі экспэртызы рэчаў і парэштак, і прапанавалі перапахаваць ахвяраў тут жа, на месцы загубы, зрабіўшы гэтыя мясьціны мэмарыяльнымі. На што атрымалі адказ зь Віцебскага райвыканкаму: маўляў, дачакаемся афіцыйных папераў ад 52-га батальёну і зробім перапахаваньне так, як будзем лічыць патрэбным.

**«Радыё Свабода»**

ЗДАРЭННІ

# АКТЫВІСТКУ АШТРАФАВАЛІ НА СОРАК БАЗАВЫХ

**9 чэрвеня ў судзе Чыгуначнага раёну Віцебску судзьдзя Ала Бардзюкова працягнула разгляд адміністрацыйнай справы актывісткі «Сумленнай улады» Надзеі Куканос.**

Грамадзянкук зьвінавацілі ў непадпарадкаваньні і абразе супрацоўніка міліцыі падчас выкананьня ім службовых абавязкаў (КаАП, артыкул 23.4 і артыкул 23.5).

Пацярпелай асобай выступаў маёр міліцыі Чыгуначнага РАУС Яўген Кацкевіч.

Згодна зь першым міліцэйскім пратаколам, 5 чэрвеня грамадзянка Куканос, якая знаходзілася ў будынку Чыгуначнага РАУС, не падпарадкавалася шматразовымзаконнымпатрабаваньням старшага апэратыўнага дзяжурнага маёра Кацкевіча, які забараніў ёй рабіць відэаздымку дзяжурнай часткі на свой мабільны тэлефон. Забараніў на той падставе, што відэафіксацыю ў міліцэйскім пастарунку нібыта не дазваляе заканадаўства. Адказнасьць за гэтае правапарушэньне прадугледжаная артыкулам 23.4 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

Другі пратакол сьцьвярджае, што пасьлязатрыманьнязаправапарушэньне грамадзянка Надзея Куканос наўмысна пачала абражаць маёра міліцыі Яўгена Кацкевіча: плявала яму ў твар і на форменнае абмундзіраваньне, а на заўвагі не рэагавала. Такім чынам, сваімі дзеяньнямі яна нібыта парушыла артыкул 23.5 КаАП.

Надзея Куканос са зьместам пратаколаў не пагадзілася і паведаміла, што якія-небудзь тлумачэньні наконт сваіх паводзінаў будзе даваць толькі пасьля апытаньня сьведкаў і прагляду відэаматэрыялаў зь міліцэйскіх камэраў відэаназіраньня.

У якасьці сьведкаў выступілі супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС Генадзь Батурын, Руслан Лысёнак і Кірыл Бяспалаў. Усе яны пацьвердзілі вэрсію, зафіксаваную ў пратаколах і выказаную маёрам Кацкевічам: не падпарадкоўвалася, супраціўлялася, плявалася, абражала, імітавала дрэнны стан здароўя.

Асноўным доказам адміністрацыйнага правапарушэньня мусіла стаць відэа з камэраў назіраньня, таму яно выклікала цікавасьць прысутных на працэсе. І хаця якасьць відэа была добрай, непрыемнай акалічнасьцю стала поўная адсутнасьць гуку. Так, на відэа было бачна, што да спадарыні Куканос ужывалася фізічная сіла, яна супраціўлялася, рабіла нейкія рухі на мігах у бок дзяжурнага, што нагадвалі плявок, але што дакладна прычынілася да такіх паводзінаў было незразумела праз адсутнасьць гуку.

Пасьля прагляду відэа Надзея Куканос заявіла,што,наяедумку,відэазьяўляецца мантажаваным, і зь яго не відаць, ці вяла яна здымкі на свой мабільнік. Праўда, пазьней яна сказала, што відэаздымкі ёй мо і вяліся, але ўся справа ў мабільніку, які сам пераскоквае з адной функцыі на іншую. Так, на відэа бачна, што тэлефон працуе, але першапачатковая яна ўлучыла яго з той мэтай, каб прадэманстраваць запісаны на мінулым тыдні факт зьбіцьця двух п'яных грамадзянаў міліцыянтамі, сьведкам якога яна выпадкова стала. А прыйшла яна ў РАУС з адзінай мэтай: даведацца пра лёс сваёй заявы, якую напісала наконт зьбіцьця гэтых грамадзянаў. Заявіла яна і пра тое, што адзінай прычынай яе адпраўкі ў ізалятар часовага ўтрыманьня стаўся менавіта факт міліцэйскага бязьмежжа, які яна зафіксавала на свой тэлефон.

Перад вынясеньнем пастановы па справе судзьдзя зрабіла перапынак. Пасьля перапынку людзей у зале паменела. Не вярнулася ў залю і Надзея Куканос. Пасьля некалькіх фармальных дзеяньняў судзьдзя Ала Бардзюкова абвясьціла, што па вывучэньні доказнай базы ў дзеяньнях Надзеі Куканос суд угледзеў склад адміністрацыйных правапарушэньняў, прадугледжаных артыкуламі 23.4 і 23.5 КаАП.

Суд пастанавіў паводле артыкулу 23.4 спагнаць з Надзеі Куканос штраф у памеры 15 базавых велічыняў, а паводле артыкулу 23.5 – 25 базавых велічыняў. Па сукупнасьці штраф склаў 40 базавых на суму 920 рублёў.

**Ян Сведка**

АБМЕРКАВАННЕ

# ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ПРОСЧЁТ И ПРОБЛЕМЫ ЭКОЛОГИИ

**Для откачки воды из затапливаемого карьера «Гралево» ОАО «Доломит» расходует в месяц на 1,5 миллиона киловатт-часов электроэнергии больше, чем обычно.**

При таком режиме за год на работу дополнительных насосов уйдет 18 миллионов киловатт-часов, сообщил «ННВ» главный конструктор предприятия Семен Рубин. Таким образом, при проектной мощности Витебской ГЭС в 138 миллионов киловатт-часов, 13% вырабатываемой электростанцией энергии будет уходить на откачку дополнительных объемов воды, поступающих в доломитовый карьер.

По словам Рубина, в течение 15 лет с откачкой воды из карьера справлялись работавшие в постоянном режиме 3,5 насоса, которые за сутки перекачивали в Двину 420 тысяч кубометров воды.

Однако ситуация изменилась в ноябре 2016 года с заполнением водохранилища гидроэлектростанции. При этом были затоплены выработанные карьеры (речь, как утверждает главный конструктор ОАО «Доломит», может идти о 40 миллионах кубометров воды).

Из-за того, что все карьеры через залежи доломитов связаны между собой, вода начала поступать в действующий карьер «Гралево». В настоящее время на откачке воды в карьере постоянно задействованы 5 насосов с производительностью 630 тысяч кубометров в сутки.

Сейчас ведутся работы по засыпанию перемычки между рекой и отработанным карьером, туда прокладывается дорога, предстоит отсыпать 6000 кубометров глины.

Напомним, что для предотвращения затопления карьера «Гралево» открытого акционерного общества «Доломит» в Рубе правительство Беларуси выделило 430 600 рублей. Вернуть эти деньги в бюджет должен будет виновник чрезвычайной ситуации, которого еще предстоит определить.

**Сяржук Серабро**
**ННВ**

КРЫМІНАЛ

# 3 ГОДА КОЛОНИИ

**В Витебском районе две продавщицы сельского магазина за растрату осуждены на 3 года колонии с конфискацией имущества, сообщает пресс-служба УВД Витебского облисполкома.**

При проведении розничной торговли женщины похитили вырученные деньги, а также растратили и присвоили находящиеся у них в подотчете товары на сумму более 125 млн неденоминированных рублей (12500 новых белорусских рублей).

Суд Витебского района приговорил бывших продавщиц к лишению свободы сроком на 3 года в колонии общего режима. Предусмотрена также конфискация имущества.

Кроме этого, женщин лишили права занимать должности, связанные с учетом, хранением и распоряжением товарно-материальными ценностями, сроком на 5 лет. Но для одной из них наказание отсрочили — на время беременности, родов и до достижения ребенком 3 лет.

**Ян Сведка**

УГОДКІ БЫКАВА

# НАЗВАЛІ ЛЯЎРЭАТА ПРЭМІІ “ ЗА СВАБОДУ ДУМКІ”

**У рамках сьвяткаваньня 93-х угодкаў зь дня народзінаў Васіля Быкава ў дзясяты раз адбылося ўганараваньне прэміяй за «Свабоду думкі». Юбілейным ляўрэатам стаў лідар «Маладога фрону» Зьміцер Дашкевіч.**

Сьвяточнае мерапрыемства ў якасьці аднаго з арганізатараў адкрыў кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Юрый Бабіч. У сваім выступе ён падкрэсьліў, што імя Быкава яднае беларусаў розных пакаленьняў і будзе яднаць яшчэ доўгі час. Як асоба пісьменьніка, так і напісаныя ім творы – гэта глыбокі пласт маральнасьці.

Іосіф Навумчык, былы кіраўнік абласной арганізацыі ТБМ, адзначыў, што Васіля Быкава яшчэ пры жыцьці называлі апосталам беларускай нацыі і беларускай духоўнасьці. Ушаччына дала Беларусі шмат пісьменьнікаў і паэтаў, таму і ўлада, і грамадзкасьць мусяць рабіць усё магчымае, каб памяць пра Быкава, Барадуліна і іншых творцаў захоўвалася ў назвах бібліятэкаў, школаў, вуліцаў. Распавёў ён прысутным і пра свае сустрэчы з Быкавым ў Празе, адзначаўшы, што гэта быў спакойны, ураўнаважаны, сьціплы, інтэлегентны, але вельмі таленатавіты чалавек, які распавёў нявыдуманую праўду аб вайне. У сваіх творах Быкаў паказаў, што вайна – гэта зло для любога народу.

Выкладчык і паэт Уладзімер Папковіч, зазначыў, што ў асобе пісьменьніка яго найперш закранае тая акалічнасьць, што гэта быў чалавек, які ніколі ня здраджваў свайму сумленьню і праўдзе. А ў якасьці прыкладу прывёў выпадак з Васілём Сёмухам, выключэньне якога з Саюзу пісьменьнікаў (яшчэ ў савецкія часы), не падтрымаў толькі адзін Васіль Быкаў.

Досыць арыгінальнай разынкай стаўся літаратурны конкурс, прысьвечаны жыцьцю і творчасьці пісьменьніка, за які ў выпадку дакладнага адказу можна было абрымаць салодкую цукерку.

Далей барды Гергій Станкевіч з Бешанковічаў, Леанід Лаўрыновіч з Браслаўды гурт з Наваполацку Sumarok выканалі па некалькі песьняў.

У другой частцы імпрэзы ў якасьці вядоўцаў выступілі паэт і бард Віктар Шалкевіч ды Аляксандар Мілінкевіч. Віктар Шалкевіч абнадзееў публіку, што часы пераменяцца, і калі-небудзь прэмію імя Васіля Быкава "За свабоду думкі" будуць уручаць у Палацы Рэспублікі, ды перадаў слова Аляксандру Мілінкевічу. Былы кіраўнік руху "За свабоду" нагадаў, што прэмія ўручаецца ў дзясяты раз, хаця намінантаў агулам ужо дванаццаць. Затым ён заклікаў ўганаравацьхвілінай маўчаньня ляўрэатаў прэміі, якія адышлі ў вечнасьць: Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Алеся Белакоза ды сястру Быкава нябожчыцу Валянціну, якая раней кожны раз была тут.

Але не Мілінкевіч назваў імя сёлетняга ляўрэата, яго абвесьціла вядомая на ўсю Беларусь грамадзкая актывістка з Шаркаўшчыны Ада Эльеўна Райчонак. Прадстаўляючы пакуль невядомую асобу, і захоўваючы інтрыгу, яна пакрысе дадавала да пакуль невядомага вобразу пэўных эпітэтаў, пакуль пасьля словаў "ён арганізаваў абарону Курапатаў" ня стала зразумелым, што гэта – Зьміцер Дашкевіч. "Гэта герой нашага часу! Мы яго ўсе вельмі любім! Гэта Зьміцер Дашкевіч! Вітаем яго!" – эмацыйна завяршыла Ада Райчонак.

Імя сёлетняга ляўрэата абралі ўладальнікі прэміі, уганараваныя раней. Ва ўмовах сацыяльнай і палітычнай апатыі менавіта такія людзі, як ляўрэаты прэміі, праз сваю актыўную грамадзянскую пазыцыю даюць усім беларусам шанец на будучыню, прапагандуючы свабоду і праўду як найважнейшыя складнікі жыцьця.

Паэт і палітык Уладзімер Някляеў пасьля таго як узгадаў асобу Быкава адзначыў, што Зьміцер Дашкевіч таго ж гарту і той сілы духу, што і іншыя гістарычныя папярэднікі, што змагаліся за свабодную Беларусь. Прачытаў ён і свой верш, прысьвечаны сёлетняму ляўрэату.

Дашкевіч у сваім выступе ў новай якасьці аддзячыў усіх за гонар быць юбілейным ляўрэатам шаноўнай прэміі. Як вернік, ён ня мог не адзначыць той факт, што вытрымаў свае турэмныя калідоры толькі дзякуючы веры і божай падтрымкі. "Можна верыць у бога, можна ня верыць, але духоўныя законы дзейнічаць", - зазначыў ён у прыватнасьці.

Былі на імпрэзе і іншыя выступоўцы, і іншыя сьпевы, і іншыя словы, і быў там той вольны беларускі дух, які можна адчуць толькі ў сакральным нацыяльным асяродку. У прыватнасьці, у такім, як у Бычках.

**Ян Сведка**

# КРАЖИ ИЗ ДАЧНЫХ ДОМОВ

**В Витебском районе каждая третья кража из дачных домов граждан совершается на территории садоводческого товарищества.**

— Каждая третья кража из дачных домов граждан совершается на территории садоводческого товарищества. За пять месяцев текущего года зарегистрировано 17 фактов, подозреваемые установлены по 7, — констатирует начальник отдела охраны правопорядка и профилактики Витебского РОВД Сергей Субботин, говоря о том, что, как правило, предметом преступного посягательства являются продукты питания, строительные инструменты.

Несмотря на то, что криминогенная ситуация по совершению данного вида преступлений имеет тенденцию к снижению, правоохранители продолжают проведение мероприятий, направленных на профилактику краж из дачных домовладений. Во время встреч обращается внимание граждан на бдительность и необходимость информирования органов внутренних дел обо всех ставших известными фактах незаконной торговли спиртными напитками, появления лиц цыганской национальности, случаях семейного насилия, неблагополучия в ячейках общества и другой информации, представляющей интерес для милиции.

Не первый раз с начала дачного сезона агитационно-разъяснительную работу с председателем садоводческого товарищества «Авангард-2004» Валентиной Зарембо проводит участковый инспектор милиции Андрей Кисленко.

Летом в «Авангарде-2014» 122 «живых» участка — это внушительный масштаб, а вот зимуют здесь владельцы не более двух фазенд. Остальные — консервируют дачные домики на «глухой сезон» и носа сюда не кажут. Однако есть и те, кто периодически наведывается в «Авангард» с целью профилактики краж имущества, хоть и знают, что дома под зорким оком одного из членов кооператива и по совместительству электрика. За несение службы по охране общественного порядка мужчине осуществляется доплата. В случае обнаружения подозрительных личностей или следов преступных посягательств он оперативно информирует председателя товарищества и, конечно же, участкового инспектора милиции.

Стражи правопорядка не скрывают, что в обеспечении безопасности от преступных посягательств граждане зачастую бездействуют. О том, что сохранность имущества на даче — общая задача, напоминают листовки профилактической направленности на Доске объявлений в садоводческом товариществе. Здесь же размещена информация и контактные данные участкового инспектора милиции. Андрей Кисленко участвует в ежегодных общих собраниях членов кооператива, где призывает исключить соблазны для нечистых на руку граждан, промышляющих легкой наживой. А именно все, что плохо лежит, является таковым.

За 12 лет на общественном посту председателя кооператива Валентина Дмитриевна убедилась, что в одиночку результат не получить, необходимы единомышленники. Их обрела в лице Андрея Кисленко и Юрия Кулешова.

**www.pridvinje.by**

## АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газэты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газэты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*





ПОСТПРАЎДА

# ПРАПАГАНДЫСЦКІ ПУХІР ЛОПНУЎ

**Ну вось і фініта ля камэдыя. КДБ паведаміла, што крымінальная справа па артыкуле за «падрыхтоўку масавых беспарадкаў» спыненая. То бок, ніякай падрыхтоўкі да масавых беспарадкаў не было. І гэта азначае, што тры месяца нам казалі няпраўду. І сам Лукашэнка, і КДБ, і БТ, і «Советская Белоруссия».**

Памятаеце, як нам доўга і падрабязна апавядалі і паказвалі, што джып са зброяй з тэрыторыі Украіны прарываўся праз украінска-беларускую мяжу? Праўда, украінскія памежнікі з самага пачатку абверглі гэтую інфармацыю. Аднак беларускія ўлады настойвалі, запэўнівалі, што двое злачынцаў арыштавана, ловяць трэцяга. Але нешта больш нічога пра гэтую гісторыю не чутна, ніякага крымінальнага працягу яна не мела. Мусіць трэцяга так і не злавілі, а двое затрыманых зьбеглі.

Асобная гісторыя пра звышпатрыятычную фрау А., якая мужна раскрыла змову, падрабязна апавядала, як баевікі рыхтуюцца да масавых беспарадкаў. Сам Лукашэнка спасылаўся на яе аўтарытэтнае сьведчаньне. Дык што, атрымоўваецца, што ўсё відэа пра жанчыну, якая размаўляе на дрэнный расейскай мове — гэта танны спэктакль?

Ці сюжэт пра «кактэйлі Молатава», бутэлькі з гаручай сумесьсю, якія нібыта былі знойдзены ў машыне кіроўцы Статкевіча Сяргея Кунцэвіча. Яго шмат разоў паказвалі па БТ. Цяпер высьвятляецца, што гэта фэйк.

Калі журналісты задалі па гэтаму эпізоду прамое пытаньне кіраўніку КДБ Валерыю Вакульчыку 13 чэрвеня падчас знаходжаньня яго ў парлямэнце, то атрымалі фэнамэнальны адказ: «Юрыдычна сьледчыя не знайшлі доказаў, нягледзячы на тое, што ў яго машыне было гэта» (!)

Гэта як? Бутэлькі з гаручай сумесьсю зьяўляюцца доказам ці не доказам злачынства ў залежнасьці ад палітычнай мэтазгоднасьці?

Пасьля гэтага як можна верыць у інфармацыю Вакульчыка, што летась паводле падазрэньня ў тэрарызме былі затрыманыя 17 чалавек, у 2015-м годзе — 21 чалавек, а з пачатку бягучага года ў Беларусі затрымалі васьмярых? Адразу ж узьнікае вялікае падазрэньне, што гэта такія ж тэрарысты, як «баевікі» зь «Белага легіёну».

Праўда, адзін раз спадар Вакульчык падчас гэтай імправізаванай прэсавай канфэрэнцыі быў шчырым. Распытваючы пра справу «Белага легіёну», журналісты спыталі старшыню КДБ: «Вы ўпэўненыя, што справа дойдзе да суду?» — «Прабачце, гэта не я вырашаю», — адказаў Вакульчык. Што зразумела. Справа ж палітычная, а палітычныя рашэньні ў краіне прымае не старшыня КДБ, а зусім іншы чалавек.

Ня думаю, што шмат людзей паверыла ва ўсю гэтую прапагандысцкую кампанію. Бо яна пачалася ў момант, калі на тле акцый недармаедаў давер да ўлады ў масавай сьвядомасьці быў нізкі. Да таго ж з самага пачатку гэтая справа выглядала вельмі штучна, нязграбна і абсурдна.

Зразумелая, памяць на палітычную інфармацыю ў большасьці абывацеляў кароткая. Тым ня менш, уся гэтая фэйкавая гісторыя пра падрыхтоўку масавых беспарадкаў разбурае давер да асноўных дзяржаўных інстытутаў. Высьвятляецца, што нельга верыць ні прэзыдэнту, ні КДБ, ні БТ, ні галоўнай прэзыдэнцкай газэце. Ці варта казаць, што ніхто зь іх не пакаяцца за падман.

На жаль, гэта сёньня сусьветная праблема. Палітыкі падчас палітычных кампаній верзяць адкрытую лухту. Іх абвяргаюць, прыводзяць неабвержныя доказы, што яны абманшчыкі. І што, гэтыя палітыкі з ганьбай зыходзяць з палітычнай арэны? Ды не, яны часта аказваюцца пераможцамі. Філёзафы кажуць пра тое, што сьвет уступіў у эпоху постпраўды. Беларусь у гэтую эпоху ўступіла даўно, яна ідзе ў авангардзе.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКІ РУХ

# ДЗВЕ ДАРОГІ Ў АДНО МЕСЦА

**Так званыя «знешнія фактары» аднолькава настойліва грукаюцца ў дзверы алігархічнага капіталізму ў Расіі і рынкавага сацыялізму ў Беларусі.**

**Мы ішлі, ішлі...**

З тым, што беларусы і рускія з'яўляюцца дзвюма галінамі аднаго народа, згодныя каля 70% суайчыннікаў. На працягу многіх гадоў гэтую ісціну пацвярджалі сацыёлагі НІСЭПД. Тым не менш у пачатку 1990-х гадоў кожная «галіна» пайшла сваёй дарогай да рынку і дэмакратыі.

На думку адзінага палітыка (АП), якую ён падрабязна выклаў у сакавіку 2003 года на ідэалагічным семінары, Расія адмовілася ад ролі лідара ўсходнееўразійскай цывілізацыі. «Дый у тэхналагічным, эканамічным плане яна не можа лічыцца для нас прыкладам. Справа ў тым, што вартасць, багацце Расіі — яе нетры — адчужаныя ад народа і сталі крыніцай яе бедаў як у матэрыяльнай, так і ў духоўнай сферы», — канстатаваў АП.

Палітычная эліта «старэйшага брата», што падсілкоўваецца сыравіннымі алігархамі, зарыентавала краіну на неаліберальныя каштоўнасці, спіс якіх адкрывае яскрава выражаны індывідуалізм і бездухоўнасць. Цікава, як бы на падобныя адкрыцці адрэагавалі расіяне, якія паўсталі пасля «Крымнаш» з каленяў? Чый узровень духоўнасці сёння вышэйшы?

Аднак я адышоў ад тэмы. У пачатку 1990-х гадоў Расія абрала шлях бандыцкага капіталізму. Вынік вядомы — жахлівая карупцыя, жорсткая ломка ўсіх сацыяльных асноў, што катком праехалася па лёсах мільёнаў людзей. Беларускі шлях — гэта шлях паступовых пераўтварэнняў «ад жыцця». Прамежкавым вынікам пры руху па гэтым шляху стала сацыяльная мадэль, здольная надзейна абараніць простага грамадзяніна.

«Мы будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі. Ура!» Аўтар гэтага афарызму — Чабурашка. Але калі аптымізм мультыплікацыйнага персанажа перанесці на беларускую эканамічную рэальнасць, дык слова «будавалі» варта было б замяніць на слова «ішлі». Наколькі пры гэтым гарманічна глядзеўся б выклічнік «Ура!» — пытанне спрэчнае.

Колькі людзей — столькі меркаванняў. Таму абмяжуюся меркаваннем АП, якое ён выказаў у Пасланні–2017: «Я ўжо казаў: іншага такога года не будзе, мы знаходзімся каля небяспечнай рысы, пераступіць якую не можам. Не зробім хоць бы паўкроку наперад — баюся нават казаць, што можа адбыцца».

Мы ішлі, ішлі і нарэшце прыйшлі. Ура!

**Будучыня надыдзе для ўсіх**

«Небяспечная рыса», «Узбочына гісторыі» — гэта далёка не поўны пералік магчымых назваў станцый, да якіх мы дайшлі пад кіраўніцтвам АП, і — што важна — сам АП гэтыя назвы і прапанаваў.

Асабіста я для апісання сучаснага стану беларускай мадэлі аддаваў бы перавагу выкарыстанню вобразу гістарычнага вазка, з якога мы вывальваемся (вываліліся). Аднак днямі, пасля знаёмства ў інтэрнэце з лекцыяй палітолага Кацярыны Шульман, я быў вымушаны скарэктаваць свае ўяўленні. І справа не ў тым, што гістарычны вазок мне даваўся замяніць на цягнік. З гэтай заменай я лёгка змірыўся. Значна важней — тэзіс аб прынцыповай немагчымасці з цягніка сысці.

Усе народы, сцвярджае Шульман, едуць у адным цягніку. Будучыня наступіць для ўсіх. Яе не пазбегнуць. Адрозненне толькі ў месцах: камусьці дасталася бакоўка каля прыбіральні, хтосьці едзе ў СВ (спальным вагоне).

Чацвёртай прамысловай рэвалюцыі з яе пераходам ад пятага тэхналагічнага ўкладу да шостага ніхто не зможа пазбегнуць. Вось толькі рабатызацыя вытворчасці, штучны інтэлект і іншыя навукова-тэхнічныя прыбамбасы, што падвысяць узровень жыццёвага камфорту для адных, іншых паставяць на мяжу фізічнага выжывання.

Праілюструю на прыкладзе.




У верасні 2016 года нямецкая фармацэўтычная кампанія «Bayer» набыла найбуйнейшага амерыканскага вытворцу насення — кампанію «Monsanto» за $ 66 мільярдаў (кошт «Газпрома»).

У пачатку 1980-х гадоў навукоўцы «Monsanto» адныміз першых здолелі мадыфікаваць гены расліны і з тых часоў працягваюць развіваць тэхналогіі, якія дазваляюць сельскагаспадарчым культурам даваць большы ўраджай, патрабаваць менш пестыцыдаў і скарачаць эрозію глебаў.

Адзін з самых прыбытковых праектаў «Monsanto» — вытворчасць двух прадуктаў: гербіцыду гліфасат і генетычна мадыфікаванага насення, устойлівага да гліфасату, што дае магчымасць фермерам выкарыстоўваць хімікат, які гарантавана забівае пустазелле, але не кранае карысныя культуры.

Можна быць ідэйным праціўнікам ГМА (генетычна мадыфікаваных арганізмаў). Сілком вырошчваць іх, а тым больш ужываць у ежу, ніхто не прымушае, але будучыня наступіць для ўсіх. Для новай транснацыянальнай кампаніі старт у будучыню пачынаецца з кантролю над 30% сусветнага ўраджаю. Нескладана здагадацца, якой яна апынецца для прыхільнікаў савецкіх ГОСТ.

Яшчэ адзін прыклад. 13 мая Уладзімір Пуцін падпісаў Стратэгію эканамічнай бяспекі Расіі на перыяд да 2030 года. У дакуменце пералічаныя 25 пагроз і выклікаў. Сярод іх «імкненне развітых дзяржаў выкарыстоўваць свае перавагі ва ўзроўні развіцця эканомікі, высокіх тэхналогій... у якасці інструмента глабальнай канкурэнцыі». Вось такія яны, развітыя краіны, вынаходзяць тэхналогіі, каб замацаваць за сабой права ехаць у СВ ды выштурхаць астатніх на бакоўкі каля прыбіральні…

**Праблема рэйтынгу**

Што ў такіх умовах застаецца рабіць кіраўнікам дзяржаў, якія гібеюць на бакоўках каля прыбіральні? Адказ на гэтае пытанне — не таямніца. Неабходна пераключыць увагу насельніцтва з унутраных праблем на знешнія.

Паводле аб'ектыўных прычын, Пуціну гэта пераключэнне здзейсніць прасцей, чым яго беларускаму калегу. «У Расіі, — тлумачыць журналіст Сямён Навапрудны, — ёсць тое, чаго няма ў Беларусі, — фундаментальны і імперскі комплекс, які ляжыць у аснове рэчаіснасці: мы — вялікая дзяржава, а вакол ворагі, аднак мы можам адпомсціць у любым куточку свету. Таму, калі глядзіш расійскае тэлебачанне, бачыш, што расіяне жывуць не ў Расіі, а заклапочаныя праблемамі Украіны, Сірыі, Захаду. Гэта такая прыдумка — эвакуяваць расіян з краіны, каб не паказваць падзенне даходаў, эканамічны тупік».

Г.зн. Пуцін мае магчымасць не толькі дамагацца згуртавання расіян «вакол сцяга», палохаючы знешняй пагрозай, але і дэманстрацыяй ваеннай моцы, выклікаць масавы рост пачуцця ўласнай значнасці і адчування велічы Расіі, якая адраджаецца (паводле красавіцкага апытання ВЦИОМ, 86% грамадзян РФ лічаць, што Расія з'яўляецца ўплывовай дзяржавай на сусветнай арэне).

У арсенале АП толькі «жахалкі». Адсюль праблема рэйтынгу. У АП яго сувязь з дынамікай даходаў насельніцтва істотна вышэйшая, чым у Пуціна. Таму не варта здзіўляцца чарговаму патрабаванню павысіць сярэдні заробак беларусаў да 500 долараў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

УГОДКІ БЫКАВА

# ПЕРАМОГ ЗЬМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

**17 чэрвеня ў вёсцы Бычкі Вушацкага раёну прайшлі ўрачыстасьці да 93-х угодкаў пісьменьніка. Як і ў мінулыя гады, сёлетнія ўрачыстасьці на радзіме Васіля Быкава традыцыйна ладзілі віцебская абласная філія Таварыства беларускай мовы і рух «За свабоду».**

На падворку сядзібы-музэя Васіля Быкава сабраліся аматары беларускай літаратуры з усіх рэгіёнаў, аднавяскоўцы, а таксама вядомыя палітыкі, грамадзкія дзеячы, творчая інтэлігенцыя.

Быў названы сёлетні ляўрэат прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі», імя якога традыцыйна абвяшчаюць на Віцебшчыне — на імпрэзах да дня народзінаў славутага пісьменьніка-земляка. Сёлета гэтым пачэсным званьнем узнагароджаны лідэр «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч.

Палітык адзначаны за кампанію абароны Курапатаў, узнагароду ён атрымаў з рук краязнаўкі Ады Райчонак, у мінулым таксама ляўрэаткі прэміі.

Прэмія «За свабоду думкі» існуе з 2008 году, за гэты час яе атрымлівалі славутыя паэты Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, пісьменьнік Уладзімер Арлоў, літаратары і палітыкі Ўладзімер Някляеў і Павал Севярынец, мастакі Алесь Пушкін і Алесь Марачкін, краязнаўцы Ада Райчонак і Алесь Белакоз, музыка Лявон Вольскі, сьпевакі-барды Зьміцер Вайцюшкевіч і Віктар Шалкевіч. Рэжысэр Валеры Мазынскі атрымаў дыплём ляўрэата летась.

Як адзначыў падчас урачыстай цырымоніі заснавальнік руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, сёлетняя прэмія юбілейная, яна ўручаеццадзясятыраз.«Калінекаторыя беларусы сёньня наракаюць на праблемы, якія перашкаджаюць жыць, то ўсе нашы ляўрэаты адказваюць выклікам рэальнымі справамі. Прыклад Зьмітра Дашкевіча — таму пацьвярджэньне», — сказаў спадар Мілінкевіч.

Хвілінай маўчаньня ўдзельнікі імпрэзы памянулі сястру Васіля Быкава, Валянціну, якая неўзабаве пасьля нападу зламысьніка памерла летась у ліпені. Таксама адышлі ў іншы сьвет ляўрэаты мінулых гадоў Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Алесь Белакоз.

Паводле традыцыі, ляўрэаты атрымалі памятны дыплём і скульптуру аўтарства Віктара Копача.

Ляўрэатаў прэміі «За свабоду думкі» абірае адмысловае журы, у склад якога ўваходзяць асобы, узнагароджаныя гэтым званьнем у мінулыя гады. У лік намінантаў трапляюць тыя, хто найбольш яскрава праявіў сябе ў грамадзкай, прафэсійнай альбо творчай дзейнасьці на карысьць Беларусі і свабоды.

***"Радыё Свабода"***

«ПИСЬМА СЧАСТЬЯ»

# КАК ГОСУДАРСТВО НАШЛО ЗАМЕНУ «ТУНЕЯДЦАМ»

**После неудачной попытки собрать «немного» денег в бюджет с «тунеядцев», которая довела до массовых протестов, власти взялись за другую группу населения — предпринимателей.**

С 1 апреля, представителям малого бизнеса тоже начали приходить «письма счастья» — от них требуют заплатить сбор в Фонд социальной защиты населения. Причем, вновь по очень хитрой схеме.

Даже если предприниматель не вел никакой деятельности в 2016 году, он должен заплатить государству налог — более 950 рублей. Кроме того, если белорус, зарегистрированный в качестве ИП, хотя бы на день просрочил оплату сбора, государство выписывает ему штраф — и через суд добавляет еще 10-20% от неуплаченной суммы.

Как рассказала одна из сотрудниц ФСЗН в разговоре с корреспондентом «Салідарнасці», указание штрафовать всех подряд пришло «сверху». Женщина также добавила, что в этом году суды завалены административными делами в отношение ипэшников.

— Штрафов просто море синее, в прошлом году такого не было, — призналась она.

Сбор и штрафы придется заплатить даже безработным белорусам, которые зарегистрировались в виде предпринимателей, чтобы найти хоть какую-то подработку. Под ударом оказались и сезонные работники, которые зарегистрировали ИП, чтобы работать официально.

Что-то подсказывает, что простые белорусы вряд ли выйдут на площади своих городов, чтобы защитить белорусских ипэшников, а значит — чиновники получают хорошую возможность «доить» самую уязвимую часть белорусского бизнеса. Причем, без лишнего шума.

Самое печальное, что под давлением властей предпринимателей становится все меньше. К примеру, по данным на 1 февраля за год число зарегистрированных ИП в Беларуси сократилось на 19,8 тысяч. А в ситуации, когда в стране фактически исчезает малый бизнес, о выходе из экономического кризиса говорить не приходится.

**Павел Рос**
**https://gazetaby.com**

СЕРЫЯ СУІЦЫДАЎ

# «ДАЖЕ В 90-Х ТАКОГО НЕ БЫЛО»

**Зафиксирован очередной суицид на рабочем месте: повесился 22-летний работник ОАО «Речицадрев». В экспресс-комментарии «Салідарнасці» оценку происходящему на предприятиях дал председатель профсоюза РЭП Геннадий Федынич.**

Напомним, в последнее время получили резонанс несколько суицидов работников на предприятиях. Осенью прошлого года повесился слесарь на Бобруйском заводе тракторных деталей и агрегатов. В марте повесился на ОАО «Интеграл» замдиректора. В июне гомельчанка подожгла себе на проходной фабрики «Коминтерн» и спустя неделю скончалась.

— Раньше мастер знал не только имя-фамилию каждого работника, но и то, что происходит у него дома, какая материальная ситуация и т.д. То есть, работник жил в коллективе, и коллектив знал его ситуацию. А сейчас никто такой задачи даже не ставит. Если бы попытались узнать, что у них на душе, чтобы люди видели в руководстве не только начальство, но и коллег по работе. Те же идеологи вместо того, чтобы этим заниматься, выискивают работников, которые мыслят не так, как начальство и руководитель государства.

Так или иначе, предыдущие самоубийства работников на предприятиях в обществе связывали, в том числе, с материальным фактором.

— Но я не припомню, чтобы в 90-х такое происходило, — отметил Геннадий Федынич.

— И это, пожалуй, вполне объяснимо. В 90-х люди были более организованными и солидарными, а Федерация профсоюзов не была подконтрольна власти так, как сегодня. В случае возникновения проблемы она либо решалась, либо люди организовывались и делали забастовку на предприятии. А сегодня они и в официальный профсоюз не хотят обращаться, поскольку не видят там помощи, и организованно выказать недовольство не могут. В итоге люди оказываются брошенными и представленными сами себе. Никому нет дела, что у них дома. А там может быть все что угодно. И долги по кредитам могут давить, и денег на содержание семьи может не хватать, если зарплата составляет 300 рублей.

**Константин Похольчик**
**https://gazetaby.com**

ЗАЎЧАСНАЯ СМЕРЦЬ

# ДРУГ СЫНА ЛИДИИ ЕРМОШИНОЙ РАСКРЫЛ ПРИЧИНЫ ЕГО СМЕРТИ

**Александр Николаев сообщил в Facebook, что Алексей Ермошин умер в результате «естественных» причин.**

«Простились с Алексеем Дмитриевичем Ермошиным сегодня.

Как и предполагалось, смерть наступила от естественных причин и, по моему мнению, наступила от совокупности факторов.

Во-первых, Леша не был худышом, я бы сказал, он имел серьезные проблемы с лишним весом.

Во-вторых, Леша отказывался признавать необходимость заняться своим здоровьем вплотную и исключить из рациона алкоголь полностью и сесть на диету. Я ничем от него не отличаюсь, поэтому скорее всего стану следующим. Правда обо мне СМИ не напишут.

Леша не выглядел больным. Да, он был тучный мужчина, но не выглядел как человек, которого срочно надо лечить.

Однако, он испытывал сильную приязнь к своему двоюродному брату и при любой возможности гонял к нему в Бобруйск, поэтому трагическая смерть брата (которая, к слову, наступила не по его вине), как я понимаю, заставила Лешу забыть о здоровье. Стресс, крепкие поминки в Бобруйске и продолжение движения в "Мяте", где он сделал свое последнее фото, не могли не нанести серьезнейший удар по здоровью, которого Леха не перенес.

Если кого-то, кто простился с Лешей сегодня, смутил закрытый гроб, расслабьтесь. Причина в этом не травмы, не прихоть Лидии Михайловны, а элементарные посмертные изменения, которые претерпевает тело покойного в условиях повышенных температур и влажности. Тем не менее, с учетом этого обстоятельства дату смерти вероятнее всего сдвинут ближе к тем самым поминкам, о которых я упомянул выше.

Наши предположения о том, что вход на прощание будет по пропускам, не оправдались. Несмотря на присутствие высокопоставленных должностных лиц, в том числе и всеми нами нелюбимых функционеров, таких как г-жа Ананич и г-жа Щеткина, министров и их заместителей, единственным признаком их участия в прощании было наличие двух переносных знаком "остановка запрещена" и нескольких экипажей ГАИ. Ну и еще г-н Балаба, начальник ОМОН, в красивом светлом костюме и с двумя радиостанциями на поясе командовал переодетыми в гражданское милиционерами, всем нам знакомыми, которые, правда, в траурный зал не совались.

В пользу Лидии Михайловны сказалось так же то, что в общем и целом, она не стала предпринимать каких-то экстра-мер, и не стала вмешиваться в предназначенный любому рядовому покойному процесс. Тело нашего друга исследовал рядовой эксперт в рядовом учреждении ГК СЭ. Никаких тебе профессоров и моргов закрытых для обывателя медицинских учреждений.

Кроме того, Ермошина пригласила всех друзей и коллег, однокурсников и одноклассников сына почтить его память на поминках в одном заведений на ул. Мясникова.

Я отказался. Потому что эту цепочку смертей после поминок надо как-то прерывать. Да и если честно на большинство этих напыщенных официальных рож, которые Леху толком-то и не знали, я и глядеть не могу. Не то, что за одним столом сидеть. Какой бы серьезный повод для этого не был.

Алексей Дмитриевич! Покойся с миром. Я тебя сам помяну. И не раз...»

**https://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 28.06.2017 у 17.30
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.